# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ



№1 (200)

студзень 2019

Інфармацыйны бюлетэнь • Міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"




# ВІНШУЕМ ЛЕАНІДА ЛЫЧА!

8 лютага 90-гадовы юбілей адзначыў сябра Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" Леанід Лыч (Беларусь).




Прафесар Леанід Лыч, слынны беларускі гісторык, доктар гістарычных навук, стаяў ля вытокаў "Бацькаўшчыны", і праз усе гады існавання Згуртавання быў адным з самых актыўных яго сябраў. Не зважаючы на сваю занятасць на пасадзе галоўнага навуковага супрацоўніка аддзелу найноўшай гісторыі Беларусі Інстытуту гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, спадар Леанід Міхайлавіч заўсёды знаходзіць час, каб падзяліцца з кіраўніцтвам Згуртавання навінамі, даць парады, абмеркаваць свежыя навуковыя ідэі і заўжды дорыць нам ганаровую магчымасць быць першымі чытачамі сваіх новых кніг і артыкулаў.

Ад усяго сэрца віншуем дарагога юбіляра і зычым яму моцнага здароўя, заўжды добрага настрою, нязгаснага імпэту і яшчэ большага навуковага натхнення!

Шчыры Вам дзякуй, шаноўны Леанід Міхайлавіч, за шматгадовую супрацу! Працаваць з Вамі – для нас вялікі гонар!

**Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**

# ЗІНАІДА КЛЫГА – КАВАЛЕР ОРДЭНА БЕЛАЙ ЗОРКІ!

Да 101-й гадавіны Эстонскай Рэспублікі прымеркаванае ўручэнне дзяржаўных узнагарод людзям, якія сваёй дзейнасцю змянілі жыццё Эстоніі да лепшага. У спісе ўзнагароджаных – сябра Рады ЗБС "Бацькаўшчына" Зінаіда Клыга!



22 лютага ў Цэнтры Арво Пярта прэзідэнт краіны Керсці Кальюлайд уручыць адной з пачынальніц беларускага згуртавання ў Эстоніі і дзейнай старшыні Таварыства беларускай культуры Іда-Вірумаа "БЭЗ" Ордэн Белай зоркі V ступені за развіццё супрацоўніцтва з нацыянальнымі меншасцямі.

Шаноўная спадарыня Зінаіда Клыга!

ЗБС "Бацькаўшчына" сардэчна віншуе Вас з узнагародай! Мы вельмі ганарымся шматгадовай, ад самага пачатку дзейнасці "Бацькаўшчыны", супрацай з Вамі. Ваша актыўнасць, адданасць беларускай справе і аптымізм – добры прыклад і крыніца натхнення не толькі для нас, але для кожнага, хто мае гонар быць знаёмым з Вамі і дасягненнямі асабіста Вашымі і беларускай грамады ў Эстоніі пад Вашым кіраўніцтвам.

Ад усёй душы зычым Вам поспехаў у новых справах, творчага імпэту і нязгаснага аптымізму!

**Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**


Uladz Hrydzin (RFE/RL)

## Зварот групы дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 12-га і 13-га скліканняў да беларускага народа

Шаноўныя суайчыннікі, грамадзяне Рэспублікі Беларусь!

15 сакавіка 1994 года Вярхоўны Савет Беларусі 12-га склікання пасля вялікіх і надзвычай напружаных спрэчак, якія адбываліся на працягу амаль чатырох гадоў, прыняў першую Канстытуцыю незалежнай Рэспублікі Беларусь. Паводле зацверджанага 15 сакавіка 1994 года Асноўнага закона нашай дзяржавы былі выбраныя першы яе Прэзідэнт, легітымны склад парламента – Вярхоўнага Савета 13-га склікання, сфарміраваныя новыя органы выканаўчай улады і Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусь.

У самым першым артыкуле нашага Асноўнага Закона зафіксаваны палажэнні, стратэгічна важныя для існавання ўсёй нашай нацыі цяпер і ў будучыні:

“Рэспубліка Беларусь — унітарная дэмакратычная сацыяльная прававая дзяржава.

Рэспубліка Беларусь валодае вяршэнствам і паўнатой улады на сваёй тэрыторыі, самастойна ажыццяўляе ўнутраную і знешнюю палітыку.

Рэспубліка Беларусь абараняе сваю незалежнасць і тэрытарыяльную цэласнасць, канстытуцыйны лад, забяспечвае законнасць і правапарадак”.

У артыкуле 18 Канстытуцыі недвухсэнсоўна вызначана: “Рэспубліка Беларусь у сваёй знешняй палітыцы выходзіць з прынцыпаў роўнасці дзяржаў, непрымянення сілы або пагрозы сілай, непарушнасці межаў, мірнага ўрэгулявання спрэчак, неўмяшання ва ўнутраныя справы і іншых агульнапрызнаных прынцыпаў і нормаў міжнароднага права.

Рэспубліка Беларусь ставіць за мэту зрабіць сваю тэрыторыю без’ядзернай зонай, а дзяржаву — нейтральнай”.

Такім чынам, асэнсоўваючы сябе паўнавартасным суб’ектам супольнасці народаў свету, пацвярджаючы сваю прыхільнасць да агульначалавечых каштоўнасцяў, грунтуючыся на сваім неад’емным праве на самавызначэнне, абапіраючыся на шматвяковую гісторыю развіцця беларускай дзяржаўнасці, Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь у прынятай Канстытуцыі сцвердзіў суверэнітэт і незалежнасць нашай дзяржавы як найвялікшую каштоўнасць для кожнага грамадзяніна Беларусі.

Незалежнасць Беларусі – гэта набытак не толькі сённяшняга пакалення, але і нашых продкаў; яна таксама належыць нашым нашчадкам. Суверэнітэт краіны не можа быць абмежаваны або скасаваны праз рашэнні любых дзяржаўных асоб і органаў, нават праз рэферэндум.

Незалежнасць і дзяржаўны суверэнітэт адкрываюць шлях да росквіту Айчыны, спрыяюць умацаванню стасункаў нашай краіны з міжнароднай дэмакратычнай супольнасцю народаў.

Згодна з арт. 3 нашай Канстытуцыі, “адзінай крыніцай дзяржаўнай улады і носьбітам суверэнітэту ў Рэспубліцы Беларусь з’яўляецца народ”. У сувязі з гэтым мы, дэпутаты Вярхоўнага Савета 12-га і 13-га скліканняў, заклікаем усіх грамадзян краіны і ўсіх суайчыннікаў за мяжой згуртавацца вакол дасягнутай Незалежнасці нашай Бацькаўшчыны і зрабіць усё магчымае, каб на вякі захаваць і замацаваць суверэнітэт нашай дзяржавы!

Прынята сходам групы дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 12-га і 13-га скліканняў.

*9 лютага 2019 г., горад Мінск*

Увага! Паводле рашэння сходу, тыя дэпутаты Вярхоўнага Савета 12-га і 13-га скліканняў, якія з розных прычын не маглі прыняць у ім удзел, могуць далучыцца да гэтага Звароту, даслаўшы да 15 сакавіка г.г. пісьмовае паведамленне пра гэта на адрас электроннай пошты: *volbiel@gmail.com*, або на паштовы адрас рэдакцыі “Народнай Волі”: *nvonlineinfo@gmail.com*.

**“Народная Воля”**

навіны

# ВІЛЬНЯ АБВЯСЦІЛА 2019 ГОДАМ СТАНІСЛАВА МАНЮШКІ

Кампазітар нарадзіўся на Міншчыне, і першую музычную адукацыю атрымаў у Мінску.

“Без Станіслава Манюшкі Вільня ў свеце культуры страціла б частку сваёй ідэнтычнасці”, – сказаў падчас паседжання гарадской рады мэр літоўскай сталіцы Рэмігіюс Шымашус.

У Вільні Манюшка правёў 18 гадоў. Сёлета спаўняецца 200 гадоў з дня нараджэння адной з найважных постацяў беларускай культуры.

**“Радыё Свабода”**



Народная Воля

зварот

## “Народная Воля”: Ліст з Бацькаўшчыны

Дарагія суайчыннікі, землякі!

Кожны з Вас па розных прычынах апынуўся за межамі Радзімы. Але, я ўпэўнены, дзе Вы ні знаходзіліся б, нябачная сувязь з малой радзімай ніколі не знікне з Вашых сэрцаў. Вам заўсёды будзе цікава ведаць, што адбываецца на Бацькаўшчыне, у родным горадзе, пасёлку ці вёсцы.

Нашу газету “Народная Воля” смела можна назваць равесніцай незалежнасці Беларусі. Заснаваная амаль 25 гадоў таму, яна з першых выпускаў стала пазіцыяніраваць сябе як нацыянальнае незалежнае выданне з непрадузятай, прынцыповай і адначасова ўзважанай пазіцыяй, якое прапануе сваім чытачам толькі праўдзівую інфармацыю. А праўда, як вядома, часам з’яўляецца нявыгаднай і няручнай. Менавіта таму нас неаднойчы спрабавалі закрыць – газету шмат гадоў даводзілася друкаваць і ў Літве, і ў Смаленску. Але кожны раз мы адстойвалі сваё права на жыццё. У гэтым вялікая заслуга не толькі рэдакцыі газеты, але і нашых чытачоў, для якіх “Народная Воля” за гэтыя гады стала значным і любімым выданнем. Нас падтрымлівала і міжнародная супольнасць.

Сёння “Народная Воля” – самая ўплывовая, самая аўтарытэтная недзяржаўная грамадска-палітычная газета, якая займае другую пазіцыю па тыражы пасля праўладнай “Советской Белоруссии”, падпіска на якую праходзіць у прымусовым парадку.

Дарагія суайчыннікі, землякі! Калі Вы хочаце ведаць, што адбываецца на вашай Радзіме, у Вас ёсць магчымасць атрымліваць поўны нумар выдання ў дзень выхаду і нават да таго, як ён будзе аддрукаваны ў друкарні. Для гэтага мы прапануем Вам падпісацца на электронную версію газеты ў фармаце PDF. У такім выпадку Вы не толькі станеце ўладальнікам аператыўнай інфармацыі, але і акажаце вялікую матэрыяльную падтрымку нашай газеце, якая нясе выдаткі з-за дыскрымінацыі з боку ўлады.

Прашу Вас праявіць актыўнасць і звярнуцца з такой жа прапановай да родных, сяброў, калег у той краіне, дзе Вы пражываеце. Кошт электроннай падпіскі: 7,20 бел. рубля ў месяц. Гэта крыху больш за 3 долары. Вы можаце падпісацца на месяц, на квартал (21,6 бел. руб.) ці адразу на паўгода (43,2 бел. руб.). Спадзяюся, што такія сумы не стануць для Вас занадта вялікімі. Аплачваць падпіску можна любымі банкаўскімі картамі праз сістэму WEBPAY.

Больш за тое, шмат цікавай інфармацыі вы можаце знайсці на сайце выдання: *https://www.nv-online.info*. Але звяртаю вашу ўвагу: электронны рэсурс і газета – розныя інфармацыйныя крыніцы. Сайт з’яўляецца ўсяго толькі электронным дадаткам да газеты.

Таксама я запрашаю да творчага супрацоўніцтва: кожны з Вас можа стаць аўтарам артыкула як у газеце, так і на сайце. Нам цікава ведаць, як складваюцца Вашы лёсы і што Вы думаеце пра падзеі, якія адбываюцца на Радзіме. Словам, наша сяброўства можа быць плённым ва ўсіх кірунках.

Вельмі спадзяюся, што Вы прадэманструеце згуртаванасць і жаданне сябраваць з намі дзеля роднай Беларусі.

**З павагай,**
**Іосіф Сярэдзіч, заснавальнік,**
**выдавец і галоўны рэдактар**
**газеты “Народная Воля”**

гутарка

# БЕЛАРУС З ПАДЛЯШША СТВАРАЕ САМУЮ ГРУНТОЎНУЮ АНЛАЙН-БІБЛІЯТЭКУ БЕЛАРУСКІХ ВЫДАННЯЎ

Пра гісторыю і планы самай поўнай і самай вядомай анлайн-бібліятэкі беларускіх кніг і выданняў kamunikat.org "Народная воля" распытала ў стваральніка партала, беластоцкага журналіста Ярослава Іванюка.

– У 2000 годзе ў мяне нарадзіліся два дзіцяці, – смяецца Ярэк, – мой сын і "Камунікат". А рабіць сайт, дарэчы, навучыла жонка.

Падрабязнасці 18-гадовай даўніны Яраслаў згадвае на прыгожай беларускай мове. Іванюк – класічны прадстаўнік беларусаў Падляшша: нарадзіўся, вырас і жыве ў Польшчы, але сам – этнічны беларус.

– Я гадаваўся ў сям'і, дзе па-польску нават не размаўлялі. Толькі на мове! – тлумачыць Ярэк. – Не літаратурнай, канечне: у Бельску-Падляшскім мы гаворым на нашым мясцовым дыялекце. Але школа ў мяне была беларуская, ліцэй – таксама беларускі, імя Тарашкевіча. Пытання нават не ўзнікала – беларус я ці паляк! І сына свайго я запісаў беларусам.

Таленавіты журналіст, прафесійны гісторык, харызматычная асоба. Пра такіх, як Іванюк, звычайна кажуць: "чалавек справы". Падаецца, што менавіта з жадання ствараць і з'явілася ўся гэта гісторыя пад назвай "Камунікат".

– Ой, якія там напалеонаўскія задумы! Пасля ўніверсітэта і некалькіх гадоў працы на "Польскім радыё для замежжа" я вярнуўся з Варшавы на Беласточчыну. Працаваў на "Радыё Беласток" і супрацоўнічаў з беларускай рэдакцыяй у Варшаве. А вы ж цудоўна ведаеце, што гэта такое. Прагучала праграма – і ўсё. А частку эфіраў хацелася ўсё ж такі захаваць. Перанесці іх, што называецца, на паперу. Так з'явіўся бюлетэнь "Камунікат", які я потым пачаў пераносіць у інтэрнэт.

**– Першыя ўражанні згадаеце?**

– Спачатку вельмі добра чыталі матэрыялы пад гістарычнай рубрыкай. Але я заўсёды думаў: калі ёсць такі сродак камунікацыі, як інтэрнэт, то ў ім павінна прысутнічаць і беларускае мастацкае слова! Так паціху дайшла справа і да літаратуры. Шчыра? Мне вельмі хацелася прэзентаваць яе менавіта адсюль, з Беласточчыны.

**– Амбіцыйна!**

– Але нам сапраўды цікава ўсё, што мае сувязь з беларускасцю ва ўсіх яе праявах. Зайдзіце на сайт: там ёсць перыёдыка, навуковыя даследаванні, слоўнікі, метадычныя дапаможнікі. Бывае, што кніжкі выходзяць на іншым канцы свету. Але калі яны пра Беларусь – калі ласка!

**– Адлегласць, атрымліваецца, не перашкода?**

– Слухайце, калі з-за мяжы можна рабіць беларускае тэлебачанне, якія тады пытанні з інтэрнэт-бібліятэкай? Больш за тое, нягледзячы на, як вы кажаце, адлегласці, мы працуем толькі са згоды аўтараў! Заключаем дамовы, усё робім афіцыйна.

**– Усім бы вашым калегам такую прынцыповасць!**

– А трапілі аднойчы ў сітуацыю. Раптам чалавек пытаецца: "А па якім гэта праве вы аддалі мае кнігі на іншы сайт?" Мы здзівіліся. А як пачалі разбірацца, дык на тым сайце ўсе нашы рэсурсы! І гэта прытым, што я заўсёды за тое, каб беларускага слова ў інтэрнэце было многа. Але давайце вырашаць падобныя пытанні ўсё ж так больш элегантна. Хаця б спасылкі пазначаць, ці што.

**– Яраслаў, як быць стваральніку бібліятэкі з асабістымі прыхільнасцямі? Ёсць нейкія рэчы, якія дакладна не з'явяцца на вашых "палічках"?**

– Графаманства – гэта адразу "не". Ніколі не будзе на сайце антыбеларускіх тэкстаў або нейкіх шавіністычных гісторый. Але не думайце: здаралася, што і нам адмаўлялі. Нагоды? Ды самыя розныя. Скажам, адзін пісьменнік не захацеў з намі супрацоўнічаць, таму што на "Камунікаце" ёсць аўтары, з якімі яму, цытую, "не па дарозе".

**– Дарэчы, рабіць пісьменнікам персанальныя старонкі – таксама ваша прыдумка?**

– Нейкі я задужа станоўчы атрымліваюся (смяецца). Між іншым, я ведаю, што многія пісьменнікі адмыслова не робяць сайты, а даюць чытачам менавіта нашы, камунікатаўскія, каардынаты. Адмыслова не робяць сваіх сайтаў. Бо ўсё неабходнае ёсць у нас: біяграфія, здымкі, творы. Так што недарэмна я працаваў па начах. Ну і зноў жа – усё ў свабодным доступе. Толькі спампоўвай ды чытай.

**– Мара любога карыстальніка!**

– Прысутнасць беларускага слова ў інтэрнэце і так не дужа вялікая. А калі мы яшчэ грошы за гэта будзем браць... Дарэчы, на "Камунікаце", калі вы заўважылі, ёсць шмат газет і часопісаў, якія маюць свае сайты, але мы і з імі дамовіліся! Каб у адным месцы была і тая ж "Народная Воля", і іншыя газеты.

**– Скажаце – "іншыя". Сапраўдныя знаходкі! Прэса дакамп'ютарнага часу – не жарты.**



– Алічбоўваем дзясяты год: самвыдат, незалежную прэсу, эміграцыйныя часопісы. Аказалася, што ў інтэрнэце няма не толькі газет пачатку 1990-х гадоў. Няма нават прэсы 2000-х! Прыйдзе час, калі за гэту справу возьмецца і Нацыянальная бібліятэка Беларусі. Не хачу сказаць, што там нічога не робяць, не. Але, на жаль, мала што трапляе ў агульны доступ. А вось цяпер уявіце: усю гэтую вялікую камунікатаўскую справу стварае маленькі калектыў, не больш за дзесяць чалавек. Хаця такім рэсурсам мусіць займацца сотня людзей. Больш за ўсё намаганняў ідзе на алічбоўку старых газет. Часта ў іх проста нечытэльны стан, патрэбная рэканструкцыя. А рэканструкцыя – гэта заўсёды час, людзі і грошы. Бо я перакананы: за кожную справу людзям трэба заплаціць. А з валанцёрамі пакуль што складана. Так што сродкі, як звычайна, самае балючае пытанне.

**– Яраслаў, якая сёння статыстыка наведвання сайта?**

– Скажу так: мінімум 1000 разоў на дзень сайт адкрываецца. І пакольکі гэта не рэсурс навін, я лічу, што лічбы някепскія. Але бывае, што і яны павялічваюцца ў разы. Напрыклад, калі ў 2000-м у Беларусі былі выбары, мы паставілі на сайт "Малога канспіратара". Спасылку на кніжку апублікаваў "Тут.бай" – і паказчыкі скочылі ў дзясяткі разоў.

**– Яраслаў, чаго сёння не стае "Камунікату"?**

– Я вельмі хачу пашырыць калекцыю аўдыякніг. І не проста пашырыць. Ёсць такая мара – іх рабіць! Скажам, з Зінаідай Бандарэнка мы пару гадоў таму запісалі "Птушак без гнёздаў" Ларысы Геніюш. Шыкоўна атрымалася. Я ўвогуле думаю, што сёння беларускую літаратуру варта было б папулярызаваць менавіта такім чынам.

**– Цікава, а якія літаратурныя густы ў стваральніка бібліятэкі?**

– То пойдзем у мой кабінет! Вось – на паліцах поўны збор Быкава, Караткевіча, усе нумары "Дзеяслова".

**– І што, застаецца час на "пагартаць кніжку"?**

– Ну як сказаць... Жыву я з журналістыкі. Акрамя радыё, працую ў Беларускім гістарычным таварыстве. Вечарамі-начамі раблю "Камунікат". Так, з вольным час праблема. Апошнім часам кніжкі радзей чытаю, але часцей слухаю – падчас прабежак. Можа, таму мне так хочацца нарабіць на сайце аўдыябукаў.

На развітанне задаю Яраславу самае простае, але, па вялікім рахунку, самае галоўнае пытанне: а навошта гэта яму? Калі можна проста хадзіць на працу, высыпацца, займацца домам, сям'ёй. Адпачываць, нарэшце.

– Не, ну бывае, што стомішся, – здаецца, нарэшце, Ярэк. – Але як падумаю, што няма ў свеце такой краіны, з якой бы яшчэ ні разу не зайшлі на "Камунікат"... Напэўна, людзям гэта ўсё ж такі трэба.

*P.S. У чэрвені 2018 года Яраслаў Іванюк разам са сваімі сябрамі-журналістамі Юрыем Калінам і Міхалам Сцепанюком заснаваў Фонд Kamunikat.org. У планах далейшае развіццё інтэрнэт-бібліятэкі і арганізацыя канцэртаў, вечарын, канферэнцый, праца з моладдзю.*

**Аліна Страшкевіч, "Народная воля"**

геапалітыка

# ПРОСТЫЯ СЛОВЫ ПРА БРЭКСІТ

Брэксіт сёння адна з самых цікавых і спрэчных тэмаў, што абмяркоўваюцца ў свеце. І вельмі заблытаная. Але разабрацца ў ёй нам дапамог юрыст Павел Шаўцоў, намеснік старшыні Згуртавання беларусаў Вялікай Брытаніі.

### Чаму брытанцы падтрымалі Брэксіт?

Пытанне выхаду з Еўрасаюза падавалася вельмі спрошчана, палітыкі больш кідаліся лозунгамі, чым тлумачылі наступствы выхаду.

Эліты, моцна адарваныя ад патрэб простых людзей (перакананых, што паміж кіраўнічымі партыямі няма прынцыповай розніцы), спадзяваліся, што народ будзе традыцыйна абапірацца на іх меркаванне. І гэта не спрацавала. Кампанія рымэйнераў (тых, хто хацеў застацца ў ЕС) больш палохала, чым тлумачыла наступствы выхаду. Людзей гэта толькі раздражняла. Галасы тых, хто казаў, што нібыта пагадненне з ЕС абмяжоўвае гандаль з новымі эканомікамі, гучалі ўсё мацней.

### А навошта тады наогул далучаліся да ЕС?

Брытанія вельмі позна ўвайшла ў ЕС (1973) і лічыла гэты саюз толькі гандлёвым пагадненнем. Брытанцы дагэтуль аддаюць перавагу навінам з англамоўных краін. Еўрапейскія падзеі далёка не на першым месцы для іх.

### А што з эміграцыяй?

Пагадненне з ЕС дзейнічае так: хочаш гандляваць з Еўропай – выконвай і прынцып свабоднага перамяшчэння працоўнай сілы. Брытанію літаральна запаланілі эмігранты з Усходняй Еўропы. У буйных гарадах эмігрантамі нікога не здзівіш, але гэтым разам яны даехалі нават у маленькія брытанскія мястэчкі і, на думку мясцовых, забіраюць у іх працу.

### Што змянілася пасля прыняцця рашэння пра Брэксіт

Калі казаць пра эліту, то прыхільнікі і праціўнікі Брэксіту ёсць і сярод лейбарыстаў, і сярод кансерватараў. І там, і там ёсць прыхільнікі гандлёвай самастойнасці Брытаніі, і там, і там выступаюць супраць эміграцыі. З іншага боку, калі Тэрэза Мэй была ў Індыі і прапанавала больш шчыльнае супрацоўніцтва ў эканамічнай сферы, адным з пытанняў, якія ўзняў індыйскі ўрад, было пытанне віз. Брытанцы могуць паўстаць перад выбарам: "а што калі замест палякаў прыедуць індыйцы..."

Што да падзення курса фунта, то гэта добра адбілася на павелічэнні плыні турыстаў у краіну, нізкі курс выгадны экспарцёрам. Карпарацыі і вялікія сусветныя банкі займаюцца юрыдычнай адаптацыяй. Лондан – па-ранейшаму сталіца свету.

### А што будзе пасля Брэксіту?

Пакуль невядома, калі ён будзе. Ёсць варыянт жорсткага разрыву, тады ўжо 29 сакавіка спыняцца ўсе пагадненні. Тэрэза Мэй і яе прыхільнікі выступаюць за мяккі варыянт. Магчыма, гэта азначае той жа жорсткі Брэксіт, але ўжо толькі ў канцы 2020 года. Урад спадзяецца за гэты час заключыць нейкія пагадненні з ЕС, каб змякчыць разрыў. Але цяпер выглядае не тое, што ніхто не ведае, якія гэта будуць пагадненні. Магчыма, гэта проста адцягванне часу Х.



### А што Ірландыя?

Яшчэ адно пытанне, па якім бакі не могуць паразумецца, – мяжа ў Ірландыі. Калі адбудзецца выхад з ЕС, трэба будзе праводзіць мяжу з кантролем і ўсімі атрыбутамі, а гэта можа пасварыць ірландцаў, чаго не хочуць ні брытанцы, ні еўрапейцы.

### Што будзе з простымі брытанцамі?

Па простых брытанцах Брэксіт ударыць найперш. Паўстануць пытанні з візамі, з пенсіямі (шмат брытанцаў жывуць на пенсіі ў Іспаніі), з пасведчаннямі кіроўцы, адпачынкамі. Ужо цяпер паўмільёна брытанцаў падалі на ірландскае грамадзянства, каб мець магчымасць у выпадку Брэксіту пазбегнуць усіх гэтых праблем.

Цяпер у Брытаніі адбываецца дэіндустрыялізацыя, а гэта не толькі перанос вытворчасцяў у іншыя краіны, але і тое, што спажыўцы ў большасці купляюць тавар праз інтэрнэт. У сувязі з гэтым вялікая колькасць крамаў у Брытаніі зачыняецца, а гэта працоўныя месцы для большасці малаадукаваных людзей. Таму і перамаглі прыхільнікі Брэксіту: яны здолелі даць адказ на гэтую няўпэўненасць у заўтрашнім дні. Простыя людзі думаюць пра простыя рэчы.

**"Будзьма беларусамі!" паводле гутаркі з Паўлам Шаўцовым, намеснікам старшыні Згуртавання беларусаў Вялікай Брытаніі**

кампанія

# "БЕЛАРУСКАМОЎНЫ": ГРАМАДСКАЯ КАМПАНІЯ ДА ПЕРАПІСУ НАСЕЛЬНІЦТВА 2019

беларускамоўны

ПЕРАПІС НАСЕЛЬНІЦТВА 2019

У 2019 годзе у нашай краіне пройдзе чарговы перапіс насельніцтва, сярод пунктаў будуць пытанні (нумар 12 і 13) і пра родную мову.

Беларуская мова – гэта неад'емная частка нашай культуры і гарантыя нашай будучыні як унікальнага народа. Вынікамі перапісу мы здольныя засведчыць самі сабе і ўсяму свету, што мы паўнавартасная нацыя, вартая зацікаўлення і павагі з боку іншых нацый свету. Падтрымаем наш нацыянальны скарб – мову нашых продкаў, якая нас усіх аб'ядноўвае і робіць унікальнымі.

Адказ "беларуская" на пытанні перапісчыкаў аб роднай мове і мове штодзённага ўжытку мае не толькі сімвалічнае, але і практычнае значэнне. Ад колькасці людзей, якія ў адказах назавуць беларускую мову, будзе залежаць далейшая палітыка дзяржавы. Адказам "беларуская" вы станоўча паўплываеце на яе.

Будзем жа памятаць пра гэта, адказваючы на пытанні перапісчыкаў! Падтрымаем наш нацыянальны скарб – мову нашых продкаў, якая нас усіх аб'ядноўвае і робіць унікальнымі.

Да кампаніі ўжо далучыліся Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына", "Арт Сядзіба", платформа "Талака", крама "Symbal.by", Беларускі ПЭН-цэнтр і Асамблея НДА Беларусі.

in memoriam

# ЮРКА ТУРОНАК – ЧАЛАВЕК, ЯКІ СТАЯЎ КАЛЯ ВЫТОКАЎ САМАСТОЙНАЙ БЕЛАРУСКАЙ ДУМКІ Ў ПОЛЬШЧЫ

З Юркам Туронкам я пазнаёміўся ў Варшаве ў свой студэнцкі час, недзе пад канец 1970-х. Мы не маглі не пазнаёміцца, бо ўсе тыя ў Варшаве, хто спачуваў беларускай справе, наогул раней ці пазней сустракаліся ў клубе Беларускага грамадска-культурнага таварыства (БГКТ) на вуліцы Сенатарскай, 8.

У камуністычныя часы БГКТ было адзінай легальнай беларускай арганізацыяй у Польшчы, і кожны, хто хацеў хоць што-колечы зрабіць у беларускім кірунку, такім або іншым бокам судакранаўся з гэтай арганізацыяй, якая знаходзілася, як кожнае іншае нацменшаснае таварыства ў краіне, пад пільным вокам куратараў з Міністэрства ўнутраных спраў.

Перад намі, студэнтамі, Юрка Туронак – які быў з пакалення нашых бацькоў – не хаваў сваёй антыпатыі ні да камуністычных парадкаў у агульнасці, ні да функцыянераў з БГКТ у прыватнасці. І ён з вялікай радасцю і энтузіязмам успрыняў нашу спробу, вясною вірлівага 1981 года, вырвацца з-пад апекі спецслужбаў і заснаваць незалежную беларускую арганізацыю – Беларускае аб'яднанне студэнтаў.



Юры Туронак, 2009 г.

Камуністы нашай арганізацыі не зарэгістравалі, аднак тых шасці месяцаў нашай дзейнасці ў 1981-м, ад траўня да ўвядзення ваеннага становішча ў снежні, хапіла, каб сфармаваць трывалы касцяк новага беларускага руху, які хацеў ствараць сваю Беларусь, не слухаючыся камуністаў.

У тым часе, у 1980-х, гісторык Юрка Туронак разам з літаратарам Сакратам Яновічам сталіся галоўнымі настаўнікамі беларускасці для беларускіх студэнтаў. Гэта ад іх мы, дзеці безнацыянальнага сялянства, даведваліся пра бел-чырвона-белы сцяг, Пагоню і БНР. Дый пра БЦР таксама.

Калі ў пачатку 1989 года стала ясна, што палітычныя перамены ў Польшчы немінучыя, Юрка Туронак запрапанаваў стварыць Беларускі клуб – паўпадпольны "цэнтр самастойнай беларускай думкі", мэтай якога будзе "асэнсаванне палітычных абставін нашага далейшага існавання як нацыянальнай меншасці" (гэтак фармулявалася ў дэкларацыі Клуба).

Заснавальнікамі Клуба былі актывісты Беларускага аб'яднання студэнтаў Яўген Вапа, Мікола Ваўранюк, Юрка Каліна; гісторыкі Алег Латышонак і браты Антон і Яўген Мірановічы; журналісты Юрка Ляшчынскі і Ян Максімюк; мастак Лявон Тарасэвіч; пісьменнік Сакрат Яновіч. Старшынёю клуба стаў Юрка Туронак.

З перспектывы майго 40-гадовага знаёмства з Юркам Туронкам здаецца мне, што якраз 1989 год быў вяршыняй ягонага зорнага часу. Тады Юрка Туронак поўнасцю адчуў сябе адпаведным чалавекам на адпаведным месцы.

Але інтэлектуальная атмасфера Клуба, якая так адпавядала гісторыку, неўзабаве змянілася ліхаманкай палітычнай актыўнасці. Наш Клуб апярэдзіў камуністаў з БГКТ і паставіў сваіх кандыдатаў на часткова дэмакратычных парламенцкіх выбарах у чэрвені 1989 года: Сакрата Яновіча (Сэнат) і Яўгена Мірановіча (Сейм).

Разважалася і кандыдатура Юркі Туронка, але ўсе, уключна з ім, пагадзіліся, што паставіць кандыдата-каталіка для нашага суцэльна праваслаўнага электарату – гэта было б палітычным самагубствам на самым старце беларускага палітычнага жыцця.

Выбары ў 1989-м мы прайгралі, але дасягнулі такога выніку, які даваў надзею, што ў будучыні мы зможам дабіцца перамогі на выбарах і атрымаць прынамсі адзін парламенцкі мандат. Таму адразу пасля выбараў Беларускі клуб пераўтварыўся ў арганізацыйны камітэт палітычнай партыі (так званую "Грамаду").

Партыя ўзнікла ў лютым 1990 года і прыняла назву Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне (БДА). Кіраўніком партыі стаў Сакрат Яновіч. Юрка Туронак увайшоў у сціслае кіраўніцтва БДА – Галоўную раду, але даў усім ясна зразумець, што палітыкай асабліва моцна займацца не будзе, а зоймецца тым, што было ягоным жыццёвым пакліканнем – гісторыяй Беларусі.

Што значыць імя Юркі Туронка ў беларускай гістарычнай навуцы, не мне ацэньваць. Я толькі ведаю, што значыць Юрка Туронак у маёй асабістай гістарычнай адукацыі і ў адукацыі майго пакалення. Без яго мы туляліся б наслепа яшчэ невядома колькі часу і, магчыма, не здолелі б злавіць наш гістарычны шанц у 1989 годзе, калі мы ўступілі ў польскую палітыку як самастойная беларуская сіла пад бел-чырвона-белымі эмблемамі.

**Ян Максімюк,**
**"Радыё Свабода"**

гісторыя

# Юлі Марголін: ВАНДРОЎНІК У КРАІНЕ ЗЭ-КА

Разважаючы пра традыцыі айчыннай літаратуры і пра ейны ўнёсак у сусветную, непазбежна спыняешся на адным, што выклікае мяшаныя пачуцці: ты адначасна і ганарышся зробленым, і жадаў бы, каб кубак той абмінуў твой народ.

Гаворка пра турэмную літаратуру, пра шлях, які яна прайшла ад успамінаў Францішка Аляхновіча да прэміі ягонага імя за найлепшы твор, напісаны ў зняволенні.

Кніга "У кіпцюрах ГПУ", якая спачатку выйшла па-польску, па-руску, была перакладзеная на ўкраінскую, італьянскую і нават партугальскую мовы, па-беларуску пабачыла свет у 1937 годзе і сёння вядомая бадай кожнаму аматару роднай літаратуры. А вось той факт, што яшчэ адна папярэдніца "Архіпелагу ГУЛАГ" Аляксандра Салжаніцына была таксама напісаная нашым земляком, ведаюць не ўсе.

Яе аўтар Юлі Марголін нарадзіўся 14 кастрычніка 1900 года ў Пінску, горадзе, які, прызнаваўся ён пазней у сваіх успамінах, заўсёды слугаваў прыпынкам для адпачынку і сховішчам ад бедаў. У 1910 годзе паступіў у падрыхтоўчы клас Пінскага рэальнага вучылішча, дзе правучыўся да акупацыі Пінска немцамі ў 1915-м. Навучанне працягваў у Екацярынаслаўлі, дзе адначасна быў супрацоўнікам амерыканскай арганізацыі дапамогі АРА, вядомай нам па даследаванні Алесі Кіпель і кнізе Аляксандра Лукашука.

Вярнуўся Юлі ў Пінск у 1922 годзе, а ў 1929-м таленавіты маладзён скончыў Берлінскі ўніверсітэт са званнем доктара філасофіі. У часе навучання, у 1926 годзе, Марголін ажаніўся з жыхаркай Лодзі, таму, скончыўшы інстытут, з сям'ёй пераехаў у гэты горад, дзе неўзабаве далучыўся да правага сіяніцкага руху Жабацінскага. Там ён актыўна займаўся журналістыкай, літаратурнай працай, выдаў "Запіскі пра Пушкіна" па-руску і "Ідэі сіянізму" па-польску. Наагул, ён вольна валодаў не толькі гэтымі мовамі, але і нямецкай, іўрытам і ідышам.

У 1936 годзе Юлі Марголін ажыццявіў сваю мару – выехаў у Палестыну. Жонка з сынам засталіся там назаўсёды, а вось сам ён мусіў вяртацца ў Лодзь, каб працягнуць працу. Верасень 1939 года заспеў яго ў Польшчы. Пасля няўдалай спробы вырвацца да сям'і ў Палестыну, Марголін выехаў у родны Пінск – адведаць бацькоў. І тут 19 чэрвеня 1940 года яго арыштавалі.

**Лявон Юрэвіч,**
**Наталля Гардзіенка**

**Працяг чытайце на zbsb.org**



гутарка

# Леанід Лыч: "Я і надалей збіраюся




Кампанія "Будзьма беларусамі!" з нагоды 90-гадовага юбілею сустрэлася са спадаром Леанідам, каб паразмаўляць пра дзяцінства за тры кіламетры ад польскай мяжы, навуковую дзейнасць, беларускую ідэю і тое, ці магчыма ва ўзросце 89 гадоў рэалізаваць сваю дзіцячую мару.

### Пра дзень нараджэння

Я нарадзіўся ў такі час, якім нельга пахваліцца: у 1929 годзе пачаліся рэпрэсіі супраць тых, хто быў на баку беларусізацыі, адбывалася прымусовая калектывізацыя. Маці казала, што нарадзіўся я ў такі халодны дзень, што фельчар сказаў: "Калі вы яго выхадзіце, то будзе доўга жыць". Як бачыце, так і атрымалася. І пасля ў метэаралагічных перадачах увесь час гучала, што 8 лютага 1929 года было так халадно, што гэтыя рэкорды дагэтуль не пабітыя. <...>

### Пра дзяцінства ў вёсцы Магільнае

Там, дзе я нарадзіўся, людзі спрадвеку былі адданыя нацыянальным культурным традыцыям, надта любілі ўсё сваё: дакаралі тых бацькоў, чые дзеці падаліся ў Мінск і па вяртанні ўжывалі слоўцы гарадскія, – хай бы гэтыя дзеці шанавалі мясцовае.

Я нарадзіўся на тэрыторыі Савецкай Беларусі за тры кіламетры ад мяжы з Польшчай. Настаўнікі і піянерважатыя выхоўвалі нас у савецка-патрыятычным духу. У сям'і нас было пяць чалавек дзяцей, і мы ніколі не наядаліся, але ўсё адно лічылі сябе самымі шчаслівымі.

11 ліпеня нас заўжды вадзілі на дзяржаўную мяжу з Польшчай, гэта быў дзень вызвалення ад белапалякаў. Мяжой быў Нёман, мы на левым беразе, польскія дзеці на правым баку. Дарэчы, дзеці з таго боку вельмі чыста размаўлялі па-беларуску. Мы перакрыкваліся, і памежнікі не ўмешваліся.

Мне вельмі запомнілася дражнілка з Захаду: "Бальшавік – падраны чаравік". А мы казалі ў адказ: "У вас мыла няма, а калі багатая мые бялізну, вы па цячэнні бежаце, каб сваю бялізну памыць". Яны крычалі ў адказ, што няма такога.

Да вайны я паспеў скончыць пяць класаў, ужо з чацвёртага нам пачалі выкладаць рускую мову, якую самі настаўнікі ведалі слаба. Можаце ўявіць, калі настаўніца чытала кніжку, прысвечаную Кіраву, ягоным дзіцячым гадам, то ў звароце "Серёга" не было кропак над "ё", то яна прамаўляла "Сярэга". Мы тады думалі, што жа ён за палітычны кіраўнік з такім імем.

У апошнія гады перад вайной, многія прадметы выкладалі па-руску: заалогію, батаніку, хімію, фізіку – настаўнікі перасталі карыстацца чыстай беларускай мовай, стала зразумела, што нешта адбываецца.

Мой бацька быў чалавекам начытаным, аналізаваў тое, што адбываецца навокал, разумеў, што гэта няправільна і несправядліва. Калі ў нашых школьных чытанках ахайвалі жыццё да рэвалюцыі, казаў: "Не вер, нават параўноўваць цяжка". <...>

### Жыццё падчас вайны

Калі пачалася вайна, я радаваўся, бо прыгадваў, як у верасні 1939-га мы далучалі да СССР тэрыторыю за тэрыторыяй, і цяпер, думаў я, будзем далучаць і далучаць новыя – тыя краіны, дзе былі эксплуататары працоўных. Але пайшло ўсё зусім не так, як думалася.

Наша вёска заўжды знаходзілася побач са стратэгічнымі шляхамі, і ў выпадку небяспекі людзі, абмінаючы асноўныя шляхі, ішлі праз нашу вёску. На чацвёрты дзень вайны людзі пайшлі праз нас масава.

Памежнікі і камендатура доўга не здымаліся з месца – можа, не хацелі сеяць паніку, казалі нам "не пужайцеся, нас падтрымае міжнародны пралетарыят", і мы ім верылі. <...>

Недзе ў 1939 годзе да нас з Польшчы прыбыло нямала польскіх яўрэяў, яны пасяліліся ў нашым калгасе, гаварылі па-польску і на ідышы.

Я не магу патлумачыць, чаму нашыя яўрэі, наслухаўшыся ад польскіх пра здзекі, не падаліся далей у 1941-м. Бадай, верылі ў непераможнасць Чырвонай арміі. Калі прыйшлі немцы, ужо не першыя, пачаліся рабаванні.

Аднойчы ў хату прыбегла сястра, кажа, немцы дырэктара школы б'юць. А мы нашага дырэктара любілі, і дзеці наляцелі на немцаў, пачалі лупцаваць, і яны дырэктара адпусцілі.

Немцы казалі, што адселяць яўрэяў у Крым, але пазней усіх забралі. Восемдзесят чалавек адвезлі ў раённы цэнтр і там забілі. Нам казалі – забярыце іх рэчы, а мы не маглі гэтага зрабіць па маральных прычынах.

З канца 1942 года пачаўся партызанскі рух, і каму ўдавалася трапіць у партызаны, тым зайздросцілі: адразу ўсім пайсці не атрымлівалася, не хапала зброі. Я вельмі рады, што трапіў у партызанскую зону, бо Нёман аддзяляў нашае мястэчка ад зоны паліцэйскай, дзе хочаш, не хочаш – даводзілася немцам дапамагаць. Па вызваленні Беларусі нашыя хлопцы хадзілі заступацца за тых, хто трапіў у паліцыю, братазабойства ў нас не было.

### Пра цікавасць да гісторыі і дзіцячую мару

Цікавасць з'явілася ў пятым класе, калі мы вывучалі гісторыю старажытнага свету. Выкладаў прадмет малады настаўнік па прозвішчы Гаварушка, мы былі ў захапленні ад яго ўрокаў – так прыгожа і цікава расказваў. "Вось каб і я такія веды меў", – думаў я і запісваў усё, што казаў настаўнік. Так і навучыўся пісаць дробна і хутка. <...>

### Пра навучанне і навуковую ступень

Я спазніўся з выбарам тэхнікума, маці доўга не адпускала мяне ў горад, бо я быў старэйшы з дзяцей і мог дапамагаць па гаспадарцы. І там трапіў я ў невядомы для сябе тэхнікум – статыстычны.

На маім шляху паўстала такое – вельмі хацеў быць афіцэрам, афіцэры тады былі ў вялікай пашане, асабліва ў дзяўчат, і пацягнула мяне ў ваенную вучэльню. І ў мінскай ваеннай вучэльні рыхтавалі афіцэраў памежнай службы. Я згадаў нашых памежнікаў і вырашыў, што паеду на мяжу, буду бараніць краіну. Але ва ўнутраных органах быліператасоўкі, памежную службу аддалі КДБ, а нас адправілі працаваць у лагеры для палітзняволеных. У мяне пытаюцца, як я там захаваў нацыянальную свядомасць. Але чалавек і сярод ваўкоў можа заставацца чалавекам. Менавіта там я зразумеў, што ніякага камунізму мы не будуем, а ўсіх, хто нязгодны, аб'яўляюць ворагамі, што гэта не мая прафесія і мне любой цаной трэба вырвацца адтуль.

У 1954 годзе пачалі распускаць лагеры і калоніі, і я змог трапіць пад дэмабілізацыю. Мая жонка была родам з Башкірыі, і мы пераехалі ва Уфу. У 1958-м вярнуўся ў Мінск, пачаў працаваць у школе, падаўся ў інстытут, змог стаць малодшым навуковым супрацоўнікам і пачаў патроху "расці".

У 1976 годзе я напісаў доктарскую дысертацыю па чыгуначным транспарце, але якраз выйшла пастанова на нацыянальных мовах доктарскія не дазваляць, пісаць па-руску. А гэта значыць перакладаць манаграфію, усе навуковыя публікацыі, і я вырашыў, што такім займацца не буду. Год ці два не рабіў з гэтым нічога, а ў пяцьдзясят гадоў узяў новую тэму, блізкую да нацыянальнай праблематыкі. І ўжо тады абараніўся.
<...>

### Пра эміграцыю і дыяспару

Рэч у тым, што беларусы, якія вельмі любілі радзіму, неаднойчы ў гісторыі былі вымушаныя яе пакінуць. Я магу пагадзіцца і не асуджаю людзей, якія ў 1860-я адпраўляліся ў Сібір, бо не хапала зямлі. Тое самае паўтарылася і ў 1920-я. Ці на пачатку XX стагоддзя людзі ездзілі на заробкі ў ЗША, Канаду, Францыю, але, зарабіўшы грошы, вярталіся назад, купіць зямлю.

Пасля вайны людзі, што засталіся за мяжой, але паходзілі з нашага мястэчка, дасылалі патрэбныя лекі так, што хапала не толькі вёсцы, але і раёну.

У першую хвалю пасляваеннай эміграцыі мы страцілі дзясяткі людзей, якія самааддана служылі

# ЗМАГАЦЦА ЗА БЕЛАРУСКУЮ ІДЭЮ”

беларускай нацыянальнай ідэі. Падчас акупацыі яны рызыкавалі сваім жыццём, адстойваючы беларускія інтарэсы, і рызыкавалі моцна. Бо немцам не патрэбная была тая беларуская мова. Але дзеці эмігрантаў першай хвалі – яны ўжо больш інтэграваныя ў новую мову і культуру. А ўнукі нават самых адданых беларусаў маглі ўжо і не разумець па-беларуску.

Я лічу, што чым горай радзіме, тым больш за яе трэба трымацца. Пакінуць яе можна, калі яна ў росквіце, а калі краіна жыве бедна, парушаюцца нацыянальныя правы, трэба рукамі-нагамі за яе трымацца і адстойваць нацыянальныя інтарэсы.

Некаторыя прадстаўнікі дыяспары могуць выйсці на дэманстрацыі, кінуць на Купалле вянок у рэчку, але Беларусі ад гэтага прасцей не робіцца. Бо патрэбная дапамога рэальная, грашовая ў тым ліку.

### Пра БНР і БССР

25 сакавіка мусіць быць дзяржаўным святам нумар адзін. У 1918 годзе, не ў мірны час, на парадак дня было пастаўленае пытанне, быць ці не быць беларусам. Кастрычніцкая рэвалюцыя паказала, што нічога не збіраецца нам даваць. У тым ліку таму, што беларуская мова была ў загоне, і беларусы не могуць лічыцца асобным народам, бо не маюць уласнай мовы.

Мы рэдка згадваем Яўхіма Карскага, які даказаў самабытны характар нашай мовы, у тым ліку рускім навукоўцам. А раз мова самабытная, то ёсць і народ. Гэтым фактам узброіліся пасля Жылуновіч і Чарвякоў.

Што тычыцца БНР і той тэлеграмы, дасланай кайзеру, то дзеячы БНР былі тонкімі дыпламатамі, і гэта была для іх трагедыя – звяртацца да ворага. Але агулам БНР за доўгі час упершыню заявіла пра правы беларусаў.

Дарэчы, БССР – дзіця БНР, таму і дата 1 студзеня 1919 года мусіць быць для нас святочнай. Калі б не яна, мы б маглі, як Смаленская, Бранская, Пскоўская вобласці, стаць проста шараговымі абласцямі, і да Другой сусветнай вайны ад нас нічога не засталося б. Шмат дала нам палітыка беларусізацыі. <...>

Таму я лічу, што галоўным дзяржаўным святам мусіць быць 25 сакавіка, аднак і 1 студзеня мусіць быць прынамсі адзначанае чырвоным колерам у календары. <...>

### Пра БНР100 і БНР101

На жаль, мы пакуль адзначаем гэтыя святы як нявольнікі. Нельга ўводзіць ніякіх лімітаў, летась, калі было свята ля Оперы, ніхто з прадстаўнікоў дзяржавы там не выступіў. Але нашыя патрыятычныя колы мусяць працягваць святкаваць Дзень Волі так, як дазваляюць умовы – варта выкарыстоўваць усе магчымасці, якія мы маем. Хацелася б, каб гэтае свята адзначалі на лакальным узроўні таксама – Заводскі раён, Фрунзенскі раён, каб быў не адзін мітынг, а пятнаццаць.

Я быў на святкаванні ля Оперы, і ў мяне засталіся вельмі добрыя ўражанні – бачна, што людзі цягнуцца да незалежнасці.

Але трэба, каб нашае галоўнае свята адзначалі і ў Гомелі, і ў Віцебску і ў Магілёве, каб ніхто не мог казаць, што гэта рускія гарады

### Як адрадзіць нацыянальную свядомасць?

Адзінае выйсце з гэтай сітуацыі ў тым, каб даць магчымасць беларускім лінгвістам, гісторыкам, філолагам карыстацца афіцыйным эфірам – расказваць людзям, хто мы ёсць па нацыянальнасці, мове, культуры.

Трэба, каб беларуская мова стала адзінай дзяржаўнай у сваёй краіне, як тое было прапісана ў студзені 1990 года (і гэта яшчэ за савецкім часам!).

За апошнія 25 гадоў стала зразумела: краіна можа абслугоўвацца адной мовай, дык наша мова і мусіць выконваць гэтую ролю. У Чэхіі оперы ідуць па-чэшску, чаму мы не можам нашыя оперы і аперэты ставіць па-беларуску? Чаму не можам эстраду пабудаваць на ўласным моўным матэрыяле?

Гэта справа не аднаго года, гэта досыць доўгі перыяд патрэбны. Трэба са згоды народа даваць прыярытэты беларускаму. Мы хвалімся фальклорам, але нас гэта не выручае, бо фальклор павернуты ў мінулае. Нам патрэбная беларуская сучасная прафесійная культура. Трэба адыходзіць ад візуальнага рускамоўнага афармлення гарадоў і вёсак, колькі ў нас дзеячаў, вартых, каб іх імёнамі называлі нашыя вуліцы. Бо калі чалавек нарадзіўся на вуліцы Свярдлова, яму гэты Свярдлоў будзе даражэйшы за стваральнікаў БНР.

### Пра планы

Нягледзячы на тое, што зрабіў я, па шчырасці, нямала, у мяне шырокі прасцяг і далей ваяваць за беларускую ідэю. Днямі выйдзе наша з Міколам Савіцкім кніга “Улады адмовіліся ад дыялогу”, мы нямала напісалі за апошнія два-тры гады лістоў у дзяржустановы, але дзяржава не зрабіла і кроку насустрач, бо не настроеная быць беларускай.

Я бы мог у сілу ўзросту пераключыцца на мастацкую літаратуру, але працягваю чытаць кнігі па гісторыі пра досвед нацыянальнага адраджэння іншых народаў. Любы народ можна звесці на не, насадзіўшы чужую мову, і праз 50 гадоў гэта будзе іншы народ. Змянілася мова справаводства – праз пяцьдзясят гадоў людзі перастануць ёй карыстацца і ў жыцці. Самае галоўнае ў захаванні дзяржаўнасці – яго этнакультурная самабытнасць, сэрцам якой ёсць мова.



“Партрэт Ганаровага сябра клуба “Спадчына”, прафесара Леаніда Лыча”. 1994. Яўген Ціхановіч

**Юрась Ускоў, “Будзьма беларусамі!”**
**Гутарка публікуецца ў скароце.**
**Цалкам чытайце на zbsb.org**

**навіны**

## БЕЛАРУСКАЙ ВЁСЦЫ ТУРГЕНЕЎКА Ў ІРКУЦКАЙ ВОБЛАСЦІ – 110 ГАДОЎ

Ініцыятыўная група на чале з кіраўніком муніцыпальнай адукацыі Віктарам Сінкевічам распрацавала праект святочных мерапрыемстваў. У ліку ініцыятараў – Таварыства беларускай культуры імя Чэрскага.

10 студзеня адбылася прэс-канферэнцыя, падчас якой Віктар Сінкевіч агучыў этапы праекта і прадэманстраваў першы юбілейны сувенір – каляндар з відамі вёскі. Ужо ў лютым пройдзе тэматычны інтэлектуальны квіз, у маі будзе закладзены парк родавых сямейных дрэваў Тургенеўкі. Таксама запланаванае кніжнае свята і дні беларускага кіно. У праекце чэмпіянат па хуткаснаму капанню бульбы. А ў жніўні Тургенўвка будзе прымаць удзельнікаў II Міжнароднага форуму “Беларусы свету на Байкале”. І, вядома, тургенеўцы не абмінуць увагай традыцыйныя беларускія святы – Гуканне Вясны, Купалле, Дажынкі, Каляды. Самае значнае мерапрыемства праекта – дзень сяла – запланавана на 21 верасня. У планах запрасіць на свята эстрадную зорку з Беларусі і прадстаўнікоў іншых беларускіх сёлаў Іркуцкай вобласці.

Мерапрыемствы будуць праходзіць у школах, бібліятэках і на адкрытых вулічных пляцоўках.

**Алена Сіпакова, Іркуцкае таварыства беларускай культуры імя Чэрскага**



in memoriam

## Памёр Васіль Сёмуха

З лютага памёр беларускі перакладчык Васіль Сёмуха.



Васіль Сяргеевіч Сёмуха (1936–2019) нарадзіўся 18 студзеня 1936 года на хутары Ясінец (Ясенец), цяпер Пружанскі раён, Брэсцкая вобласць, у сям'і лесніка. Бацькі ў 1942 расстраляныя нацыстамі за сувязь з партызанамі. Скончыў рамана-германскае аддзяленне філалагічнага факультэта Маскоўскага ўніверсітэта імя Ламаносава (1959).

Працаваў рэдактарам у Беларускім дзяржаўным выдавецтве (1959–1964), інжынерам у сектары тэхінфармацыі СКБ-3 на Мінскім трактарным заводзе (1964–1965), выкладчыкам нямецкай мовы ў школе (1966–1967), літсупрацоўнікам газеты "Літаратура і мастацтва" (1967–1972). Па сумяшчальніцтве выкладаў нямецкую мову ў БДУ (1966–1970). З 1972 – рэдактар выдавецтва "Мастацкая літаратура".

Сябра СП СССР (з 1977). Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.

Дэбютаваў перакладам у 1959 г. Пераклаў з нямецкай паасобныя творы Гётэ, Шылера, Гейнэ, Шаміса, Мюлера, Рукерта, Гофмана, Грымельсгаўзэна, Ніцшэ, Брэхта, Дзюрэнмата, Гесэ, дэ Бройна, Томаса Мана, Рыльке, Зюскінда і інш. З польскай перакладаў Міцкевіча, Славацкага, Норвіда, Тувіма, Сыракомлю, Ежы Анджыеўскага і інш. З латышскай – Яніса Райніса, Чакса, Бэлшавіцу, Скуіньша, Белса, Вацыеціса і інш.

Рабіў пераклады тэкстаў для драматычных тэатраў і да музычных твораў. Супрацоўнічаў з заслужаным артыстам Беларусі, кіраўніком "Беларускай капэлы" Віктарам Скарабагатавым. Пераклаў лібрэта да опер Радзівіла "Фауст", "Маргер" Горскага, "Страшны двор" Манюшкі.

Пераклаў на беларускую мову "Найвышэйшую песню Саламонаву" (1994), "Новы Запавет. Псалтыр" (1995), "Біблію" (2002).

Быў узнагароджаны Ордэнам "За заслугі перад Федэратыўнай Рэспублікай Германія" (2001), "Ордэнам трох зорак" (Латвія). Лаўрэат дзяржаўнай прэміі імя Якуба Коласа (1992), Лаўрэат Літаратурнай прэміі ПЭН-Цэнтра.

**"Саюз беларускіх пісьменнікаў"**

**ЗБС "Бацькаўшчына" выказвае шчырыя спачуванні родным і блізкім спадара Васіля Сяргеевіча Сёмухі. Мы смуткуем разам з вамі.**

## Беларускі каляндар памятных дат на люты 2019 года

1 лютага – 145 гадоў таму, у 1874-м, нарадзіўся Кастусь Бялецкі, грамадска-палітычны дзеяч.

3 лютага – 55 гадоў таму, у 1964-м, памёр Станіслаў Станкевіч, кнігавыдавец.

4 лютага – 125 гадоў таму, у 1894-м, памёр Адам Гурыновіч, паэт.

4 лютага – 90 гадоў таму, у 1929-м, нарадзіўся Лявон Баразна, мастак.

4 лютага – 30 гадоў таму, у 1989-м, у Вільні адбыўся ўстаноўчы з'езд Таварыства беларускай культуры.

6 лютага – 105 гадоў таму, у 1914-м, нарадзіўся Аркадзь Куляшоў, паэт.

8 лютага – 105 гадоў таму, у 1914-м, нарадзіўся Валянцін Таўлай, паэт.

9 лютага – 20 гадоў таму, у 1999-м, памёр Уладзімір Урбановіч, культуролаг.

10 лютага – 110 гадоў таму, у 1090-м, памёр Эдвард Паўловіч, мастак, удзельнік паўстання 1863–1864 гг..

11 лютага – 30 гадоў таму, у 1989-м, у Беластоку створаны Беларускі клуб.

13 лютага – 35 гадоў таму, у 1984-м, памёр Язэп Найдзюк, дзеяч заходнебеларускага нацыянальнага руху, гісторык.

14 лютага – 105 гаоду таму, у 1914-м, нарадзіўся Павел Масленікаў, жывапісец.

14 лютага – 30 гадоў таму, у 1989-м, памёр Вінцэнт Жук-Грышкевіч, гісторык, дзеяч эміграцыі ў Італіі, Вялікабрытаніі, Нямеччыне і Канадзе, старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі (1970–1982).

15 лютага – 95 гадоў таму, у 1824-м, нарадзіўся Антон Залескі, мастак, удзельнік паўстання 1863–1864 гг.

18 лютага – 40 гадоў таму, у 1979-м, памёр Юрка Гаўрук, паэт.

19 лютага – 155 гадоў таму, у 1864-м, нарадзіўся Вячаслаў Адамовіч, дзеяч нацыянальнага руху.

19 лютага – 40 гадоў таму, у 1979-м, памёр Янка Геніюш, грамадскі дзеяч.

21 лютага – 45 гадоў таму, у 1974-м, памёр Лявон Савёнак, пісьменнік, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

22 лютага – 130 гадоў таму, у 1889-м, нарадзіўся Мікола Байкоў, мовазнавец.

22 лютага – 30 гадоў таму, у 1989-м, у Беластоку заснаваны першы гурток Беларускага Аб'яднання Студэнтаў.

25 лютага – 140 гадоў таму, у 1879-м, нарадзіўся Гасан Канапацкі, дзеяч нацыянальнага руху.

25 лютага – 110 гадоў таму, у 1909-м, нарадзіўся Сяргей Дарожны (сапр. Серада), пісьменнік.

25 лютага – 60 гадоў таму, у 1959-м, памёр Клаўдзій Дуж-Душэўскі, палітычны дзеяч.

25 лютага – 35 гадоў таму, у 1984-м, памёр Язэп Пітушка, вайсковец, дзеяч на эміграцыі ў Канадзе.

27 лютага – 155 гадоў таму, у 1864-м, быў павешаны Людвік Звяждоўскі, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гг.

in memoriam

## Памёр аўтар "Пожні" і "Крышынак"

19 студзеня на 93-ым годзе жыцця памёр Васіль Петручук, сябра Беларускага літаб'яднання "Белавежа", аўтар біяграфічных апавядаў "Крышынкі", публікаваных на працягу шмат гадоў у "Часопісе".

Распавядаў у іх найбольш пра пакутнае дзяцінства ў Грабаўцы на Гайнаўшчыне, дзе нарадзіўся ў 1926 годзе. Быў класічным і надта яркім прыкладам т. зв. грамадскага авансу даваеннага пакалення беларусаў з Падляшша ў камуністычнай Польшчы.

Васіль Петручук адразу пасля вайны служыў у Корпусе ўнутранай бяспекі, ваяваў у Бяшчадах з падполлем Украінскай Паўстанчай арміі (УПА), быў параненеы. Да 1962 г. жыў у Варшаве. Скончыў спярша курсы разведчыкаў, а пасля школу контрразведкі. Працаваў як функцыянер польскай бяспекі. У 1962 г. пераехаў у Беласток, а ў 1969 г. пайшоў на пенсію.

Васіль Петручук спярша публікаваўся ў польскім друку, з 1961 г. Пасля пачаў пісаць таксама па-беларуску і на дыялекце роднай вёскі. У 1975 г. апублікаваў у "Ніве" першае апавяданне на беларускай мове. Найбольш стаў вядомы як аўтар біяграфічнай кнігі "Ściernisko" ў перакладзе на польскую мову Юры Плютовіча, надрукаванай у 1986 г. У арыгінале "Пожня" выйшла ў 1987 г. у Беластоку і ў 1991 г. у Мінску. У 1998 г. у Беластоку выйшла яго наступная, гумарыстычная, кніжка "Клавуня, гэта я, твой Вася", а пад канец 2000-х гадоў Літаб'яднанне "Белавежа" выдала першую частку "Крышынак", якія працягваў публікаваць яшчэ шмат гадоў у "Часопісе". У 2010 г. у Беластоку выйшла яго кніжка на польскай мове "Blizny", у якой апісаў сваё жыццё з часоў маладосці, калі служыў у контрразведцы і працаваў у польскай бяспецы. Яго "Księga hańby" пра злачынствы польскага падполля на беларусах выйшла тройчы. З'яўляўся сябрам Саюза польскіх літаратараў і Саюза беларускіх пісьменнікаў. Быў узнагароджаны шматлікімі ордэнамі і медалямі – польскімі, але таксама савецкімі, расійскімі і беларускімі, адзначаны быў таксама за актыўную грамадскую дзейнасць.

Васіля Петручука, беларускага пісьменніка з Падляшша, пахавалі 23 студзеня на праваслаўных могілках у Беластоку-Дайлідах. Аўтара "Пожні" і "Крышынак" у апошнюю дарогу правялі апрача сям'і таксама прадстаўнікі беларускага асяроддзя – з аб'яднання "Белавежа", БГКТ, "Нівы", "Часопіса". Над магілай быў зачытаны развітальны верш Віктара Шведа.

Вечная памяць!

**Юрка Хмялеўскі, czasopis.pl**

**Беларусы ў свеце**
№ 1 (200), студзень 2019

Інфармацыйны бюлетэнь
МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандрацэнка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А. Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
zbsb.org e-mail: zbsb.minsk@gmail.com
тэл./факс (+375 17) 200-70-27